# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1554) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 23 ЛЮТАГА 1986 г. ЦАНА 10 зл.


## І ПОШУК І НАДЗЕЯ

**Д-Р АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ, СТАРШЫНЯ ГП БГКТ**

Трыццацігадовы ўзрост у жыцці чалавека абазначае спеласць. Спеласць чалавека гэта перш за ўсё адказнасць не толькі за сябе, але і за другіх. І за сям'ю, і за тых, з якімі чалавек працуе. Думаецца мне, што нешта падобнае дзеецца і з арганізацыяй. Трыццацігадовае існаванне арганізацыі вымагае ад яе адказнасці і за свае ідэі і за сваю практыку. Якраз трыццаць гадоў спаўняецца ад моманту паўстання адзінай масавай арганізацыі беларусаў у Польшчы — Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Вядомыя палітычныя падзеі ў Польшчы ў 1956 годзе стварылі спрыяючы клімат дзеля таго, каб стварыць гэтае таварыства. Заснаванне БГКТ абвяргала тыя недарэчлівыя сцвярджэнні, з якіх вынікала, што ўсе беларусы ў першыя паваенныя гады скарысталі з рэпатрыяцыі і выехалі з Польшчы ў СССР. Мы, карэнныя жыхары ўсходняй Беласточчыны, з дзеда-прадзеда беларусы, ведалі, што толькі невялікі працэнт беларускага насельніцтва перасяліўся ў СССР і што асноўная маса беларусаў засталася на адвечна роднай зямлі — Беласточчыне, хаця рэ-

(Працяг на стар. 3)




## КУЛЬТУРА Ў НАРВЕ

Несумненна, мясцовасць Нарва ў апошнія гады папрыгажэла. Цяпер тут адрамантаваны вуліцы. Таксама адноўленымі выглядаюць будынкі, хаця многія з іх даўнейшыя. Нарва гэта сядзіба гміннай управы, дык ёсць тут і культурна-асветныя ўстановы, як ГОК і гмінная бібліятэка.

Ад пачатку мая 1985 года дырэктарам гміннага асяродка культуры (ГОК) працуе Ірына Шастай. Жыве яна ў Гайнаўцы, так што на працу даводзіцца ёй даязджаць аўтобусам. Па прафесіі яна тэхнік драўніннай прамысловасці, аднак прыйшла працаваць на культурнай ніве. Цяпер вучыцца яна ў завочнай Студыі асветы і культуры ў Беластоку на кірунку арганізацыі культурнага адпачынку. Памяшканне ГОКу ў Нарве гэта адзін маленькі пакойчык у будынку гміннага камітэта партыі. Праўда, ёсць яшчэ клуб „Прэса-кніжка-рух“ са святліцай у асобным будынку, аднак умовы для культурнай дзейнасці ўсё ж не вельмі добрыя. У такой мясцовасці патрэбны дом культуры.

У мінулым годзе, у якім святкавалася 40-годдзе Перамогі, у цэнтры Нарвы каля аўтобуснага паўстанка ўстаноўлены памятны камень у гонар загінуўшых на гэтай зямлі і з гэтай зямлі за свабоду і народную ўладу. З гэтай нагоды адбыўся мітынг мясцовых жыхароў. У мастацкай частцы выступіла школьная моладзь з гміны і іншыя мастацкія калектывы.

Урачыста быў адкрыты ў Нараўскай гміне бягучы культурна-асветны сезон. Вясковы клуб з Тыневіч атрымаў узнагароду за I месца ў культурнай дзейнасці на Беласточчыне сярод вясковых клубаў у мінулым годзе. Адзначаны таксама клуб у Адрынках, гмінная бібліятэка ў Нарве і яе філіялы ў Ласінцы і Трасцянцы. З канцэртам выступіў вядомы калектыў з Тыневіч.

Завітаўшы ў Нарву, хацелася мне пазнаёміцца, як выглядае штодзённая культурная дзейнасць у гэтай мясцовасці. Даведаўся, што ў бягучым квартале адбыўся гмінны агляд калядніказў, у якім выступілі фальклорныя жаночыя калектывы з Тыневіч і Трасцянкі, а таксама дзіцячыя групы каляднікаў з некалькіх вёсак. Апрача агляду адбудзецца тут карнавальны баль і зімовы кулік. У зімовыя вечары можна зайсці ў клуб і пагуляць у шашкі ці шахматы і гэта ўсё. Аднак святліца клуба найчасцей пустая. Дарослыя, а

(Працяг на стар. 4)

З рэпарцёрскіх запісак

## СЯРОД СВАІХ

Ахвотна скарыстаў я з прапановы пасла Яўгенія Чыквіна, каб разам з ім паехаць на сустрэчу з выбаршчыкамі ў яго родную Орлю. Хацелася пабачыць і паслухаць, як там успрымуць свайго земляка, што яму скажуць, чаго будуць патрабаваць?

Сустрэча была наладжана ў зале пасяджэнняў гміннага камітэта партыі і гміннай рады нарадовай. Зала запоўнілася літаральна да адказу, хаця была гэта яшчэ сярэдзіна дня. Да пасла, бачу, падыходзяць яго знаёмыя ды вітаюцца з ім без асаблівай цырымоніі. Афіцыйна аддае яму пашану Аляксандр Мураўскі, старшыня гміннай рады ПРОН, калі адкрывае і вядзе гэтую сустрэчу. Побач за сталом прэзідыума занялі месцы старшыня ГРН Анатоль Мартыновіч і начальнік гміны Мікалай Зіневіч.

У час выбарчай кампаніі з Орлі і Арлянскай гміны паступіла ад грамадзян больш-менш 30 прапаноў і патрабаванняў адносна неадкладнага ўладжання набалелых спраў.

Начальнік М. Зіневіч інфармуе сабраўшыхся, што ўсе гэтыя прапановы і патрабаванні былі дбайна аднатаваны і накіраваны ў адрас устаноў, адказных за іх ажыццяўленне. Да дня сустрэчы, значыць, да 15 студзеня 1986 г., у адрас гміны паступіла 28 адказаў, інфармуючых аб спосабах, формах і магчымасцях станоўчага або адмоўнага афармлення гэтых прапаноў. Для прыкладу, было патрабаванне, каб для Арлянскай гміны павялічыць пастаўкі будаўнічых матэрыялаў. Адказы паступілі з ваяводскага ўпраўлення сельскагаспадарчымі інвестыцыямі і з ваяводскага саюза сельскагаспадарчых спулдзельняў „Сялянская самапомач“. Абедзве ўстановы былі згодны ў адным: няма асноў і магчымасцей, каб задаволіць гэтакае патрабаванне. Чаму? А таму, што будаўнічых матэрыялаў у Беластоцкім ваяводстве ўсім не хапае, а ў Арлянскай гміне ўжо існуючая, як было сказана, прадукцыйная база выкарыстана ледзь у 85 прац., значыць, ёсць магчымасць развіцця ўсялякай вытворчасці без патрэбы новых пабудоў. Гэтых магчымасцей трэба шукаць асабліва ў выкарыстанні біялагічнага прагрэсу.

Людзі мала што зразумелі з гэтай мудрагелістай канцылярШчыны, але справа зводзіцца, быццам бы, да таго, што Арлянская гміна займае 34 месца на 43 гміны ў ваяводстве па выкарыстанню сваіх магчымасцей па сельскагаспадарчай вытворчасці. Амаль 50 прац. кароў зацельваецца тут без аніякага кантролю. Значыць, паніжаецца іх пародзістасць і малочнасць. Дык замест будаваць новы, для прыкладу, кароўнік, паясняе начальнік, болей разумна было

(Працяг на стар. 5)

# І ПОШУК І НАДЗЕЯ



А. Баршчэўскі. Фота В. Рудчыка.

(Працяг са стар. 1)

акцыйнае падполле зрабіла не мала ў тым напрамку, каб выгнаць беларусаў з межаў Польшчы. Нягледзячы на гэты яўны факт, ад 1944 да 1956 года не было ніякіх арганізаваных форм беларускага грамадскага жыцця. Трэба аднак агаварыцца, што недарэчлівасць тэзісу аб неіснаванні беларусаў у Народнай Польшчы была ясная ўсім, у тым і тагачасным уладам. Гэтым тлумачыцца тое, што ў паасобныя перыяды дазвалялі яны на існаванне розных форм беларускай асветы. Праўда, лёсы гэтай асветы залежалі ад добрай або злой волі асобных чыноўнікаў, і таму ў яе гісторыі заўважаюцца скачкі і непаслядоўнасць.

Варта адзначыць, што незалежна ад ступені незразумення беларускіх патрэб, насельніцтва ўсходняй Беласточчыны не страціла сваю нацыянальную самасвядомасць, пачуццё этнічнай адрозненасці і не адраклася ад сваёй роднай мовы.

Трэба аддаць належнае і ўладам, якія, хаця афіцыяльна і тэарэтычна не прызнавалі, а прынамсі не падкрэслівалі існаванне вялікай беларускай меншасці, дык пры гэтым не прымянялі ні дыскрымінацыі, ні праследаванняў беларусаў. Вядомыя падзеі з 1956 года, між іншым, праявіліся ў тым, што былі накіраваны супраць рознага тыпу шаблонаў, фальшывак і міфаў. „Неіснаванне“ беларусаў у Польшчы было, несумненна, адным з такіх міфаў, якія канчаткова рынулі пад напорам гістарычнага пералому. Улады не толькі афіцыйна прызналі факт існавання беларускай меншасці, але і дазволілі яе прадстаўнікам заснаваць БГКТ.

Я асабіста не прымаў удзелу ў з'ездзе, які даў пачатак Беларускаму таварыству. Жыў я ў той час у Лодзі і толькі што закончыў Лодзінскі універсітэт. Свядомасць мая на працягу ўсяго ваеннага і пасляваеннага часу была адназначна беларуская. І таму, атрымаўшы вестку аб заснаванні БГКТ, адразу стаў энтузіястам гэтай арганізацыі і яе членам з 1956 года. А ў сувязі з тым, што ў гэтым жа годзе была заснавана кафедра Беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, пастанавіў я, як бы наперакор сваёй русістычнай адукацыі, перакваліфікавацца і заняцца беларусікай. З пачаткам існавання БГКТ і „Нівы“ звязана прабуджэнне маіх паэтычных схільнасцей. Праўдападобна, і без БГКТ схільнасці гэтыя ўва мне раней ці пазней праявіліся б. Калі аднак думаю аб тым, што, быць можа, без існавання беларускага руху ў Польшчы мог бы я ствараць сваю паэзію не на роднай мове, дык агортвае мяне жах. Было б гэта нешта не толькі недаравальнае, але і злачыннае як у адносінах да сваёй нацыянальнасці, так і ў адносінах да самой натуры паэтычнага таленту.

Аднак досыць аб асабістым, хаця яно і не вельмі асабістае, бо ці ж сказанае тут мною не агульнае і не грамадскае?

Пішучы сёння аб трыццацігадовым юбілеі БГКТ і „Нівы“, хачу схіліць галаву перад памяццю тых, хто ўжо адышоў назаўсёды, і перад тымі, каго вельмі моцна пахілілі гады — адным словам, перад той генерацыяй беларускіх дзеячоў, якія ў памятным 1956 годзе ўзнімалі фундамент пад Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Вядома, што былі сярод іх і былыя члены КПЗБ, і грамадоўцы, і тэбэшоўцы, і хадэкі, і лібералы. Траляліся былыя вязні як жа супрацьстаўных дзяржаў і палітычных сістэм. Я вельмі рад, што мне ніколі не давялося пачуць, каб хтосьці з гэтых дзеячоў, кіруючыся вузкім партыйным партыкулярызмам, ахайваў ці ганьбіў дзеяча з былога супрацьстаўнага ідэалагічнага лагера. Усе прыйшлі з адкрытым сэрцам, каб служыць новай, дэмакратычнай арганізацыі — Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству. Пашана вам і мая любоў, дарагія настаўнікі і сябры — пачынальнікі БГКТ!

У часе нараджэння БГКТ было мне дваццаць шэсць гадоў. Значыць, быў я маладым чалавекам. І, як гэта заўсёды бывае, здавалася мне і маім аднагодкам, што старыя не заўсёды нас разумеюць, што часта з'яўляюцца перашкодай для нашых надзей і парываў. Мінула тры дзесяткі гадоў, і час, найгеніяльнейшы з усіх настаўнікаў, непрыкметна, без крыкаў і прымусаў пераканаў мяне, што сапраўдныя нацыянальныя цэннасці родзяцца не адразу і не толькі цяпер, а ў выніку дзеянняў і намаганняў пакаленняў. Сіла свядомасці і культуры кожнай нацыі тым большая і мацнейшая, чым болей яна гістарычная, чым болей заглыблена ў мінулае, чым мацней угрунтавана не толькі ўва мне, але і ў маіх бацьках, дзедах і прадзедах.

І таму, раздумваючы сёння над нашым трыццацігоддзем, мне хочацца сказаць: прабачце і дзякую — усёй старэйшай плеядзе беларускіх дзеячоў, з якімі ў мінулым даходзіла да такіх ці іншых непаразуменняў.

Сённяшні дзень БГКТ не лёгкі і не просты. І цяжкасці аб'ектыўнага характару і суб'ектыўныя нашы недасканаласці перашкаджаюць нам узняць дзейнасць таварыства на пажаданы ўзровень. Аднак зроблена і робіцца не мала. Дзякуючы актыўнасці і самаахвярнасці людзей існуе разбудаваны аматарскі рух, які не дазваляе памерці найпрыгажэйшаму праяву нацыянальнай душы — беларускай песні. Дзякуючы напорыстасці настаўнікаў жыве беларуская мова ў многіх школах усходняй Беласточчыны. Дзякуючы не толькі прыроджаным здольнасцям, але і працавітасці развіваецца прыгожа фенамен нашага таварыства — беларускі літаратурны рух. Дзякуючы нястомнасці Валкавыцкага і журналісцкага калектыву бесперабойна трыццаць гадоў выходзіць „Ніва“. Дзякуючы актыўнасці тысяч беларусаў не толькі з Польшчы, але і з усяго свету расце скірда цаглін, прызначаных для пабудовы Беларускага музея.

Зроблена вельмі многа, але зрабіць трэба яшчэ болей, і таму чакаем кожнай праявы беларускай актыўнасці. Каштоўнае тое, што чалавек робіць для самога сябе, для сваёй сям'і, для сваіх знаёмых, для свайго грамадскага класа. Аднак найбольш каштоўныя тыя дзеянні чалавечага розуму і чалавечых рук, якія служаць умацаванню ўсёй нацыі, яе свядомасці, яе культуры і яе мовы.

Вядома, што праблемы новых часоў могуць быць выражаны пры дапамозе новых метадаў, а такія наватарскія спосабы могуць быць запрапанаваны толькі маладымі. І таму нам трэба ўскладаць свае надзеі на маладое пакаленне беларусаў, якія ў свае рукі павінны ўзяць лёс Беларускага таварыства. Аддаючы пашану старой генерацыі беларускіх дзеячоў, разумеючы іх значэнне не толькі для нашага мінулага, але і для сённяшняга, мы, як гэта бывае ў жыцці, наша заўтра спалучаем з маладымі.

Будзем верыць, што і сярод іх не забракне гарачых беларускіх сэрцаў і халодных беларускіх розумаў, якія не дазволяць загінуць ва ўсходняй Беласточчыне беларускасці, якая праіснавала тут паўтысячы гадоў.



„Беларуская песня-85“. М. Байгус і А. Пісанка з Беластока — адно з двух месц сярод дуэтаў у фальклорнай песні. Фота М. Гайдука.

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

У чацвер, 23 студзеня адбылося першае ў гэтым годзе пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ.

Спярша Прэзідыум адобрыў праект плана Беларускага календара на 1987 год, які рэдагуе Мікола Гайдук. У календары будуць змешчаны матэрыялы пра Беласточчыну і БГКТ, весткі з Савецкай Беларусі, артыкулы аб народнай творчасці і культурна-асветных дзеячах. У рубрыцы „Літаратурны палетак“ друкавацца будуць творы „белавежцаў“. На старонках календара чытачы знойдуць лячэбныя, кулінарныя, метэаралагічныя, прававыя і гаспадарчыя парады. Каляндар змесціць таксама матэрыялы навукова-папулярнай сесіі ў гонар 30-годдзя БГКТ.

У другой частцы пасяджэння Прэзідыум ГП разглядаў пытанні, закранутыя ў час дыскусіі на IV пленуме ГП у снежні 1985 года.

**В. Луба**

## НАША ТРЫЦЦАЦІГОДДЗЕ

*Дзеячам БГКТ і чытачам „Нівы“ прысвячаю*

Мы на Падляшшы ўжо спрадвеку,
Тут нашы вёскі і палі.
Мы не прыйшлі сюды аднекуль,
Мы на сваёй жывем зямлі.

Не на чужыне, мы тут — дома,
Красуецца наш сад штогод —
З нас кожны усё больш свядомы.
Што беларускі мы народ.

Мы ўжо не цёмны люд вясковы,
Мы маем доступ да навук.
Сваю цаніць умеем мову
І сваёй роднай песні гук.

У слаўнае трыццацігоддзе,
Жыве хай беларускі рух!
Няхай ён уздымае штодзень
Свядомасці народнай дух.

**Віктар Швед**

(Працяг са стар. 7)

## МЫ-ЧЭКІСТЫ

Чэкісты ў найтруднейшы час, — гаварыў Макараў, — першыя выступалі ў абарону ўлады Саветаў. Стойкасці і прынцыповасці вучыў іх сам Дзяржынскі, гэты жалезны рыцар пралетарскай рэвалюцыі, як назваў яго вялікі Ленін! — і голас у Дзмітрыя Макарава падняўся ўжо амаль да аратарскага тону. Ён, забыўшыся аб абставінах, адчуваў сябе, як на мітынгу, і яшчэ доўга ўсхваляў высакароднае званне чэкіста. Урэшце з далёкага кутка зямлянкі пачулася гучнае пазяханне. Спадарожнічаючы Дзмітрыю Макараву чыгуначнік, Сцяпан Баскінскі, штурхнуў свайго таварыша ў бок.

— Кінь ты тут гэтую сваю агітацыю! — загаварыў рашучым шопатам. — Яна не на месцы, людзі спаць хочуць!

Макараў як бы прачнуўся.

— Ну, так, — прамармытаў. — Значыць, наконт назвы, якія прапановы?

— Можа быць! — адгукнуліся зрэдку некаторыя партызаны.

І назва „Чэкіст“ за імі замацавалася. Увайшла яна нават у гісторыю беларускага партызанскага руху. Пра атрад „Чэкіст“, які дзейнічаў у колішніх Клямшчэлеўскім і Высокаўскім раёнах, усплмінае нават „Беларуская савецкая энцыклапедыя“.

Чым вылучыўся гэты атрад?

Вось аб гэтым я і стараўся даведацца ад самога Дзмітрыя Макарава і ад тутэйшых людзей, якія нейкім чынам сутыкнуліся з дзейнасцю гэтага атрада. Дзмітры Макараў, мне расказваў:

— Найперш рашыў я арганізаваць ячэйкі антыфашысцкіх камітэтаў. Многіх камуністаў ведаў я з часу свайго прабывання ў Высокім. Памятаю, што ў вёсцы Навасёлкі жыў Іван Фёдаравіч Камянчук, член Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ад 1924 года. Я выклікаў яго да сябе ў атрад. На сустрэчу прыйшоў таксама і Міхаіл Казусік з вёскі Макарава, член КПЗБ ад 1924 года, былі яшчэ і іншыя таварышы, прозвішчы якіх, на жаль, я не запамятаў. І гэтакім чынам правялі мы першае пасяджэнне падпольнага раённага Антыфашысцкага камітэта, а мае таварышы сталі паўнапраўнымі членамі бюро гэтага камітэта. Сакратаром райкома выбралі мы тады Івана Каменчука. Дзеля гэтага ў мяне, як прадстаўніка Беларускага штаба партызанскага руху, былі правамоцтвы. На гэтай тэрыторыі прадстаўляў я таксама Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, — адзначыў Дзмітры Матвеевіч. Ад сябе я тут дабаўлю, што вёскі, якія ён назваў, значыць, Навасёлкі і Макарава, знаходзяцца зараз на тэрыторыі БССР, у Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці, але на сляды яго дзейнасці наткнуўся я і ў многіх вёсках, якія асталіся ў Беластоцкім краі, перш за ўсё ў Рагачах, Мікулічах, Мядзвежыках, Сяміхочах, Вілінаве, Нурцы і Верпалі. Аб гэтым, аднак ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

## СОННІК

8

**Асёл бегае** — навіны; ехаць на ім— сорам; купляць — абмяжоўвай выдаткі; рычыць — дарэмныя намаганні; карміць — памагаеш не вартаму таго; біць — будзь болей лагодны і памяркоўны.

**Асот** — варожасць; рваць — радасць у працы; паліваць — не будзе ўдзячнасці за дабрадзейства.

**Астраном з люнетам** — здзяйсненне мараў.

**Астры** (кветкі) — павышэнне па службе.

**Асуджаны** — клопаты, сум.

**Асуджэнне** — пазбяжыш небяспекі.

**Асяродак здароўя** — турботы.

**Атаман** — бачыць яго — слава; забіць — небяспека; быць ім — пачцівае і сумленнае жыццё.

**Атлас з геаграфічнымі картамі** — неспадзяванае падарожжа.

**Атлет** — тваё старанні дадуць добры вынік.

**Атрута** — няўдзячнасць за паслугі; спажываць — хвароба; паддадзеную адкінуць — пазбяжыш небяспекі; атруціцца — благія суседзі.

**Атрымаць належнае** — прыкрасці.

**Аудыенцыя** — паляпшэнне лёсу.

**Аўтамабіль** — ехаць ім — пашана; бачыць, як едзе — удача, поспех.

**Аўтамат** — рабіць насуперак свайму перакананню.

**Аўтара бачыць** — страты; быць ім — нязздейсненыя надзеі.

**Аферыст** — неспадзяваныя грошы.

**Афронт да цябе** — тваё павышэнне; ты зробіш іншаму — выйгрыш у картах.

**Ахвяру даваць** — добры заробак; прымаць — прыкрае становішча.

**Ахову знайсці** — турботы і бяда; шукаць яе — пакража.

## ЛЁНІК НА ВЯЛІКІМ СВЕЦЕ

Толькі пазайздросціць творчай і жыццёвай актыўнасці нашаму добра знаёмаму мастаку Лёніку Тарасэвічу. Нядаўна яшчэ ён шпацыраваў з Сакратам Яновічам па заснежаных аселіцах сваіх родных Валілаў („Ніва“ ад 2.II.1986 г. — „Сталіца там, дзе я“), а тут ужо глядзі — у міжчасе яму давялося пабываць у Швецыі і то з якімі вынікамі!

Ад 14 да 20 студзеня г.г. Л. Тарасэвіч быў госцем Галерэі Нордэнгаке ў горадзе Мальме (Паўднёвая Швецыя). Гэтая галерэя наладзіла персанальную выстаўку яго работ (на здымку запрашэнне на яе адкрыццё са звесткамі пра мастака і рэпрадукцыя яго карціны). На ёй былі паказаны самыя новыя ягоныя работы, якія паўсталі ў апошнім часе ў Валілах і падчас летняй пабыўкі мастака ў Швецыі. Выстаўка выклікала вялікае зацікаўленне, асабліва сярод мастакоў. Адна карціна з яе засталася ў зборах Мадэрн-музея (Музея сучаснага мастацтва ў Швецыі). У выніку гэтай удачнай выстаўкі Галерэя Бобрына ў Стакгольме запрасіла Л. Тарасэвіча, каб ён наладзіў выстаўку сваіх работ у яе залах у кастрычніку 1986 г. На ёй збіраецца ён паказаць каля 15 карцін, над некаторымі з іх ён цяпер працуе.



Вядомы шведскі мецэнат мастацтваў Клаўс Нордэнгаке ў маі 1986 г. прыме ўдзел у Міжнародным кірмашы сучаснага мастацтва ў Чыкага (ЗША). На ім ён выставіць работы Л. Тарасэвіча побач карцін такіх сусветна вядомых сучасных мастакоў, як Сэра, Морыс, Эклюнд. Аднак наш Лёнік не будзе магчы асабіста прысутнічаць на чыкагскім кірмашы, бо на той самы час вызначаны тэрмін яго персанальнай выстаўкі ў Рыверайт Студыё ў Лондане, на якую ён збіраецца ехаць.

Віншуем нашага таленавітага мастака і зычым яму новых удачаў.

**М. Гайдук**




## БАЛЬ

Васемнаццаты студзень
Бягучага года —
Вялікае свята
Для майго народа.

Сёння ў Варшаве
Таварыства наша
Наладзіла баль
Землякам з Падляшша.

Баль навагодні
У ноч снежнай буры,
Баль наш беларускі
Ў Палацы культуры.

Сяброў-падляшукаў
Прыехала многа,
Хаця немалая
З-над Буга дарога.

Я чуў ад знаёмай
Зямлячкі Варвары,
Што з самых Сямяціч
Ёсць два аўтакары.

Сядзім пры стале,
Аркестр гучна грае,
З ім разам чарнулька
Прыгожа спявае.

Народныя песні
Плывуць з мікрафона,
Плыве „Беларусачка“,
За ёю „Алёна“.

А вось тут і поўнач
Па зале шагае.
Зусім стала ціха,
Ніхто не спявае.

І тут Алесь Барскі,
Паэт наш з Падляшша.
Мікрафон у руку,
Прамову выглаша.

Жадае шчаслівага
Новага Года,
Жадае паспехаў
Для ўсяго народа.

Як скончыў прамову,
За стол зноў сядаем,
Тут, тут над сабою
Ўсе поўнач маем.

Калі толькі выбіла
Паўночна гадзіна,
Усе тут цяпер мы
Як адна радзіна.

Ўсе ўсталі на ногі,
Шампан ў руках маем,
Падходзім к знаёмым
І шчасця жадаем.

Няма цяпер розніцы,
Хто просты, хто слаўны,
Хто іншага вызнання,
А хто праваслаўны.

Цяпер тут ўсе роўны,
Усе ў адно граем.
Усе ў поўнач гучна
Год Новы вітаем.

Я хачу сказаці,
Што працэнт вялікі
Удзел у нашай забаве
Бяруць каталікі.

Дароты, Гражыны,
Рабэрты, Мар'яны —
Як выбіла поўнач —
П'юць з намі шампаны.

Жадаюць нам шчыра
Прыемнага ўсёга,
Шчасліва дажыць
Да балю другога.

**У. Д.**

# Зорка
## Старонка для дзяцей



**На ўроку ў восьмым класе ў Кленіках. Сёлета тут аж два восьмыя класы, і ўсе вучні рыхтуюцца паступаць у сярэднія і прафесіянальныя школы. Жадаем ім поспехаў. Фота Я. Чэрнякевіч.**

Алег Буцень

## НЯДОБРАЯ НАСТАЧКА

— Увесь час „чаму“ ды „што“, — раззлаваўся Паўлік. — Былі дрэнныя, а сталі добрыя. Ну, добра, прачытаю яшчэ табе. Толькі не будзь такой нядобрай. Слухай.

Паўлік уздыхнуў і пачаў зноў чытаць. Ён чытаў павольна, але не так часта спыняўся, як першы раз. Словы былі яму ўжо знаёмыя. І як толькі пачынаў чытаць нейкі сказ, у памяці ён ажываў, і ён чытаў, быццам ішоў знаёмай сцяжынкай.

— Дык якія былі дзеці? — спытаў Паўлік, закончыўшы чытанне.

— Добрыя, добрыя, — адказала задаволеная Настачка.

— Нарэшце зразумела. А я ўжо думаў, што ў мяне сястра зусім тупая.

— Не, я не тупая. Толькі пакажы мне малюнкі.

Паўлік даў сястры кніжку.

— Гэта струменьчык намаляваны?

— Не, мора.

Настачка здзіўлена падняла бровы і пытальна глянула на брата:

— Ці ж такое бывае мора? Прачытай, што тут напісана. — І яна паказала худзенькім пальчыкам на лінейку пад малюнкам.

— Вось прычапілася. Я табе ўжо два разы чытаў.

— Паўлік, ну пачытай яшчэ.

— Ты страшная капрызуля! — узлаваўся Паўлік. — Калі б ты не была хворая, я табе паказаў бы, як быць такой нядобрай.

— Ці ж я нядобрая? — Яна доўга глядзела на яго сваімі блакітнымі вачыма. — Ты чуў, што мама сказала? Каб ты мяне не крыўдзіў.

— Ну, добра, — згадзіўся Паўлік. — Толькі гэта ўжо апошні раз. Слухай!

Ён сеў выгадней на крэсле і пачаў чытаць.

Ці спадабалася апавяданне Настачцы, ці сапраўды яна капрызіла, усё ж прымусіла яна Паўліка чытаць зноў і зноў, пакуль не прыйшла мама. І мама, заўсёды такая добрая і мяккая, на гэты раз папракнула дачку, калі Паўлік паскардзіўся на яе.

А на другі дзень Паўлік віхрам уляцеў у хату:

— Мама! Пяцёрка! Па чытанню!

— Ды ты спакайней. Веру. Гэта добра, вельмі добра! — казала мама, радуючыся разам з сынам.

І калі Паўлік, не ведаючы, куды падзецца ад радасці, выскачыў на вуліцу да сяброў, мама падышла да Настачкі. Прысела на бераг ложка, пагладзіла яе па галаве і ласкава спытала, заглядаючы дачцы ў вочы:

— Ну, капрызуля, дык як жа ўсё тое было?

А Настачка прыціснулася да яе і ціха сказала:

— Я не капрызуля... Я больш не буду... — і ўсміхнулася.

Мама, ты надоўга? — спытала Настачка, прыўзняўшы галаву над падушкай.

— Надоўга, дачушка, ляжы. У мяне сёння шмат розных спраў. А ты, Паўлік, — звярнулася яна да сына, — сядай за ўрокі. Не падрыхтуешся — зноў тройку па чытанню прынясеш.

— Не прынясу, — хмурачыся, прамармытаў Паўлік. І горыч нявыказанай крыўды заварушылася ў яго грудзях. Нават не было ахвоты апраўдвацца. Вядома, можна было б расказаць, што тройку ён атрымаў з-за Сашкі — той увесь час шарпаў яго за куртку, калі ён чытаў. Але мама ўсё роўна не будзе слухаць. Калі б гэта першая тройка...

Паўлік паправіў горку кніжак на стале і сеў, падпершы галаву рукой.

Мама ўзяла сумку і ўжо з парога сказала:

— І Настачку не крыўдзь. Лекар ёй загадаў некалькі дзён паляжаць спакойна. Калі нешта папросіць — не лянуйся, зрабі.

Сказала так і пайшла.

Паўлік спачатку заняўся арыфметыкай. Але не паспеў ён рашыць і некалькі прыкладаў, як пачуўся Настачкін голас:

— Паўлік, дай мне ляльку.

— Ну і нядобрая ж ты, Настачка. Ці ж ты не чула, як мама сказала, каб я ўрокі рабіў?

— Дык я ж не перашкаджаю. Я толькі ляльку прашу.

— Якую табе? — злосна спытаў Паўлік.

— Зосю. І торбачку са шматкамі.

Паўлік дастаў з шафы шматкі, знайшоў ляльку, аддаў усё сястры і зноў сеў за ўрокі. Рашыў усе прыклады і задачы, зрабіў усё па пісанню, а потым раскрыў кніжку і пачаў уголас чытаць апавяданне Ушынскага „Дзеці ў лесе“. Калі ён скончыў, Настачка спытала:

— Гэта вам чытаць задалі?

— Ну, задалі, — адказаў Паўлік, зачыняючы кніжку.

Настачка на нейкую хвіліну задумалася. А потым ціха сказала:

— Цікава! Прачытай яшчэ раз.

— Я ж толькі што чытаў.

— А я яшчэ хачу. Ты ўсё зразумеў, а я не ўсё.

— Не буду я чытаць. Ты ўжо чула яго.

— Ну, Паўлік, — ласкава паглядзела на яго Настачка, — калі ласка... А гэтыя дзеці былі нядобрыя?

— Не, добрыя...

— Тады чаму яны не захацелі вучыцца і пайшлі ў лес? — дапытвалася Настачка.

Ул. Гарэзейчаў

## Ах і Ох

### КАЗКА

### I

Побач з братам, дзе сівелі
сосны, поўз пад кроны мох,
два браты прыстанак мелі —
мышаняты Ах і Ох.

Давялося Оху з Ахам
шмат нягодаў перажыць
што ні дзень дрыжэць ад страху
грызці пні і росы піць.

Не было ў іх вострых джалаў —
толькі кволых два хвасты
і пагроза пільнавала
мышанят ля дрэў заўжды

Свісне гівал у кустах —
абамлеюць Ох і Ах.
Град шпурляе свой гарох —
У братоў перапалох.

Сонца знікне за лясамі,
выйдзе Ліс на бор зірнуць:
птушкі. змоўкнуць, і вушамі
зайчаняты змрок стрыгуць.

Рыўся прагны звер пад мохам,
гнёзды птушак разбураў.
Ён схапіў бы Аха з Охам,
ды схавала іх нара.

Мышанятам, як і птахам,
страшна: колькі трэба сіл
каб хвастоў у Оха з Ахам
хіжы Ліс не адкусіў?

І аднойчы рана-рана,
калі ўсход ірдзеў. як жар,
яны ўсталі ды з паляны
скіраваліся ў гушчар.

Плыў туман, сыч моўчкі слухаў.
дзе хто шмыгаў па бары.
Хітры Ліс тады пранюхаў,
што братоў няма ў нары.

Травастой ён носам кратаў.
не губляў ахвяр сляды.
„Не, — пакляўся, — мышаняты.
не ўцячы вам ад бяды...“

Глухамань. Куток мядзведжы.
Долы тванню аддаюць.
На шляху — гнілы валежнік.
пні замшэлыя ўстаюць.

Ад калючак ныюць пяткі.
Дрэў галлё — усё гусцей.
мышаняты ж без аглядкі
у лес спяшаюцца далей.

Ах спацеў, зусім змарыўся
Ох пляцецца між карчоў.
але ўжо дыханне Ліса
даганяе ўцекачоў.

Ліс ляціць, разявіў ляпу,
узяць гатовы разам двух...
працягнуў язык і лапу,
ды з усімі ў яму — бух!

А ў той яміне глыбокай,
дзе закон быў — не шумець,
спаць збіраўся адзінокі,
улагоджаны Мядзведзь.

Бачыць ён, нязваным госцем
бухнуў Ліс ля самых ног.
Аж зароў Мядзведзь ад злосці:
— Што такое? Як ты мог?

Атрымаўшы аплявуху,

(Працяг на стар. 10)

 

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**
**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### ГОД І ЯГО СЫНЫ

Мае год сыноў дванаццаць.
Як асілкі ўсе яны.
Па чарзе ідуць на працу —
Не лянуюцца яны,
СТУДЗЕНЬ воды ў рэках
студзіць.
ЛЮТЫ снег мяце ў сумёт.
САКАВІК прадвесне будзіць.
КРАСАВІК сплаўляе лёд.
МАЙ сяўбу распачынае.
ЧЭРВЕНЬ выкасіць лугі.
ЛІПЕНЬ колас налівае
Зернем поўным і тугім.
ЖНІВЕНЬ ураджай збірае —
Жне і возіць ярыну.
Бульбу ВЕРАСЕНЬ капае,
Сее ў полі збажыну.
Што рабіць КАСТРЫЧНІК
знае —
Агароднік-лёнавод —
Буракі з палёў збірае,
Лён адвозіць на завод.
ЛІСТАПАД услаў дубровы
Лісцем жоўтым, залатым.
СНЕЖАНЬ возіць з лесу дровы,
На рацэ кладзе масты.

**Змітрок Пучынскі**

*1. Навучыцеся прыгожа чытаць верш. Прачытайце яго з падзелам на ролі: аўтар і месяцы. Папярэдне вызначце радкі, каму якія выпадае чытаць.*

*2. Выпішыце па парадку назвы ўсіх месяцаў. Вывучыце іх на памяць.*

*3. Падзяліце месяцы на: а. асеннія, б. летнія, в. вясеннія, г. зімовыя. Запішыце.*

*4. Замест пытанняў устаўце патрэбныя словы.*

Наступіла (якая?) зіма. Рэкі і азёры скаваў (які?) лёд. Людзі апранаюць (якое?) адзенне. У полі, на снезе, відаць (чый?) след. (Чыя?) кармушка штодня поўная птушак. У садзе (чыё?) дрэўца атуленае ад зайцоў і холаду саламяным кажушком. На горцы, за сялом, чуваць (чые?) галасы. Дзеці любяць (якія) гульні.

Словы для ўстаўкі: тоўсты, Асіна, цёплае, халодная, Пеціна, заячы, дзіцячыя, зімовыя.

*Спішыце. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў.*

**Словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў, называем прыметнікамі (przymiotnikami). Прыметнікі адказваюць на пытанні які? якая? якое? якія? або чый? чыя? чыё?; зялёны, учарашняя, зімовае, хуткія, мамін, Зініна, вучнёўскае, суседавы.**

5. *Прачытайце. Знайдзіце прыметнікі. На якое пытанне адказвае кожны з іх?*

Аднойчы папаўзлі па небе сівыя лёгкія снегавыя хмары. Ціха закружыўся ў паветры белы лёгкі пушок. Ён лажыўся на цвёрдую зямлю, услаў шырокае поле і надрэчны луг. Пеця выбег на вуліцу на братавых лыжах, а тут ужо на Васевых і Мірыных саначках поўна дзяцей! Пачаліся вясёлыя пацехі.

**Прыметнікі заўсёды звязаны з назоўнікамі і паяснюць іх: (які?) хуткі (што?) бег, (чые?) Валіны (што?) канькі.**

6. Да назоўнікаў **школа, мароз, свята, чырвань** падбярыце роднасныя словы-прыметнікі. Запішыце іх з назоўнікамі мужчынскага, жаночага, ніякага роду ў адзіночным, а таксама ў множным ліку.

Узор: Школа — школьны сад, школьная бібліятэка, школьнае заданне, школьныя сябры.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Советская, 170, кв. 5. Харуниной Оксане, 8 клас.

* ✲ *

СССР, 346554, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Таловый, ул. Комсомольская, 16, кв. 1. Зенцова Лена. 8 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, вул. Волаха, 7, к. 3, кв. 8. Эма Шэмет. 7 клас.

* ✲ *

БССР, 220036 г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 109. Сяргей Ануфрыеў. 7 клас.

* ✲ *

БССР, 220007 г. Мінск-7, вул. Ляўкова, 35, к. 1, кв. 12. Наташа Панасюк. 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 5. Святлана Карташова 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 38. Ніна Камісарава. 8 клас.

* ✲ *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёво. Гусельниковой Маше. 4 клас.

* ✲ *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с/х Рылёво. Соловьёвой Оле.

* ✲ *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёво, Шейниковой Лене.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36. вул. Купрыянава, 19, кв. 50. Алег Сілаеў. 8 клас.

* ✲ *

СССР, 344093, г. Ростов-на-Дону, ул. Туполева, 22, кв. 209. Ласкова Валя. 4 клас.

* ✲ *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы, д. 75/1, кв. 46. Костыпиной Ире. 8 клас.

* ✲ *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы, д. 75/1. кв. 36. Дорбиной Наташе, 8 клас.

* ✲ *

СССР, Горьковская обл., г. Кстово, 2 микрорайон, дом 8. кв. 18. Крюковой Лене. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 344111, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы, 75/1, кв. 47. Кузнецовой Светлане. 13 год. Добра грае ў шахматы.

* ✲ *

СССР, 346554, Ростовская обл., г. Шахты, п. Таловый, ул. Ленина, 13, кв. 10. Донченко Тане. **8 клас.**

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Хачу Табе расказаць пра спатканне, якое адбылося ў нашай школе на ўроку беларускай мовы.*

*Да нас прыйшоў сімпатык былой Грамады дзядзька Лаўрэн Васілюк. Спачатку дзядзька Васілюк расказаў нам аб дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Трасцянцы. Мы даведаліся, што старшынёй гуртка Грамады ў нашай вёсцы быў Ушынскі Аляксей, а сакратаром Андрэй Астроўка.*

*Потым дзядзька расказваў аб тым, як у 1926 годзе ў будынку сённяшняй пошты меў адбыцца з'езд членаў Грамады. Гэтаму перашкодзіла паліцыя. Актывісты БСРГ былі арыштаваны і прывезены ў Бельск. Там у дэфензіве польская паліцыя біла і катавала галоўных дзеячоў Грамады з Трасцянкі.*

*Такім чынам з'езд Грамады ў нашай вёсцы не адбыўся, бо перашкодзіла паліцыя.*

*Дзядзька яшчэ расказваў, што ў вёсцы Крывая жыў правакатар, які выдаваў грамадаўцаў польскай паліцыі.*

*Дзядзька Васілюк успомніў аб тым, што вельмі ахвотна чытаў беларускія сатырычныя вершы тых часоў, якія друкаваліся ў часопісе „Маланка".*

*На заканчэнне спаткання дзядзька расказаў яшчэ трошкі, як ваяваў у час апошняй вайны. Расказаў нам таксама дзве казкі і прыпомніў гімн Грамады.*

*Дзякуючы гэтай сустрэчы мы пазнавалі навейшую гісторыю нашай зямлі.*

**Іра Сідарук**
**вуч. 8 класа школы**
**ў Трасцянцы.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы пішам да Цябе першае пісьмо. Вучымся ў трэцім класе Пачатковай школы ў Зубрах. Беларускую мову мы вельмі палюбілі. У нас у школе была навагодняя ёлка. Было многа гасцей. Зала была ўдэкаравана. Вучні нашай школы разам з настаўнікамі падрыхтавалі многа песень. Дзеці, што вучацца беларускай мовы, падрыхтавалі пастаноўку па матывах беларускай народнай казкі „Як Іван чарцей перахітрыў".*

*Потым прыйшоў Дзед Мароз і раздаў падарункі. Усе разам мы бавіліся на дыскатэцы. Было вельмі весела і незвычайна.*

**Вучні III класа, Зубры.**

## Вясёлы куточак

* ✲ *

Старэйшы брат пытаецца ў малодшага:

— Што робіць бусел, калі стаіць на адной назе?

— А ён думае, — адказвае малодшы, — як далей ісці.

* ✲ *

— Скажы мне, дзяўчынка, кім бы ты хацела быць?

— Нікім.

— Як жа так?

— Бо я ўжо ёсць дзяўчынка.

* ✲ *

Малы хлопчык даганяе дзядзьку:

— Дзядзька, вы кашалёк згубілі!

— Дзякую, табе, хлопчык. Іншы можа і не аддаў бы!

— Чаму? У ім жа нічога няма!

✱ ✱ ✱

— Мне здаецца, Міхаська, што ты не ведаеш, чаму кураняты з яек вылазяць, — кажа Юрка.

— Ведаю! Кураняткі баяцца, што мы іх у яйку зварым! — упэўнена адказвае Міхаська.

✱ ✱ ✱

Стасік сядзіць за сталом і нешта малюе.

— Што ты там малюеш, — пытаецца тата.

— Каня.

— Дык дзе ж ён? — здзівіцца тата, не бачачы каня на паперы.

— Яшчэ ў мазаку.

**(Працяг са стар. 9)**

### АХ і ОХ

Ліс ледзь ногі павалок,
будзе помніць вастравухі,
як займаць чужы куток.

Мышаняты сталі енчыць.
Страх: Мядзведзь — гара гарой.
— Добра, — кажа, — вам,
малечы,
давядзецца жыць са мной.

Раз праніклі, позна, шэльмы,
будзем разам зімаваць... —
Ён прылёг і хутка вельмі
захрапеў — так лепей спаць.

Пасмялеўшы, мышаняты
дом агледзелі наўкруг,
ля ўвахода без лапаты
норку выкапалі ўдвух.

І дзянькі іх у бярлозе
пацяклі, як плынь вады
па наезджанай дарозе,
што бяжыць у нікудысь.

**Працяг у наступным нумары**

## АДГАДАНКА



**Кожны з намаляваных тут людзей мае сваю прафесію. Мастак пераблытаў інструменты, якія патрэбны гэтым людзям для працы або занятку. Дапамажыце выправіць памылкі.**



**Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok. ul Wesołowskiego 1.**

 

## ФАЛЬКЛОР

### Прываражыла
(вясельная)

Moderatto

Каб я гэто знала, што замужом ліхо,
піла б я, гуляла ў матуленькі ціхо*).
Каб я гэто знала замужні раскошы,
ні дала бы брату расплетаці косы.
Расплёў брацец косу па белых плечыцах —
паліліся слёзы з-пад сініх ачыцаў.
Ах, Божэ, мой Божэ, што чужая маці:
галоўка баліць мне — яна кажа ўстаці.
— Уставай, нявестка, можа ўжо выспалась,
выганяй тыя каровы, што ка мне нагнала.
— Матуля знала, што кароў я не мела —
нашто свайго сына да мяне прысылала?
— Я ні пасылала, ісці не гаварыла —
ты сваімі вачыма яго прываражыла.

*) Кожны другі радок паўтараецца.

Ад Эміллі Кедыш, 1921 года нараджэння, вёска Ахрымаўцы гм. Кузніца Беластоцкая, запісаў 29 верасня 1985 года М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

### БЮРАКРАТ І СМЕРЦЬ

Па Бюракрата Смерць прыйшла,
Паўдня ў прыёмнай прачакала
І на чаргу ўсё пазірала,
Якая не ўкарачвалася, а расла...
І, на прыём не трапіўшы, ў чарзе сканала.

„Што-о-о! Бюракраты мацней смерці?!“
Ды не!
Але жывучыя
ўсё ж, чэрці!

**Сяргей Міхалкоў**

## НІЎКА

### А МНЕ ЧАГО СМЯЯЦЦА

На рабоце начальнік расказвае анекдот. Усе ад смеху за жываты схапіліся. Толькі адзін супрацоўнік нават не ўсміхнуўся.

— Ты што, не зразумеў анекдот? — пытаецца начальнік.

— Я сёння звальняюся ад вас, дык навошта мне смяяцца.

### КАБ НЕ ПРАПАДАЛА

Дачка, якая нядаўна выйшла замуж, пытае маці:

— Што ты робіш, мама, з абедам, калі ён не падабаецца бацьку?

— Я пакідаю яго на вячэру.

### ЗВЫЧКА

— Дзед, вам ужо 75 гадоў, а вы жэніцеся з васемнаццацігадовай.

— Звычка, дарагі мой, звычка. Калі я жаніўся ўпершыню, маёй Аўдоцці таксама было васемнаццаць.

Найкарацейшым шляхам.

### ЖОРСТКАЕ АБМЕЖАВАННЕ

— П'еш гарэлку шклянкамі і не запіваеш вадой?

— Вымушаны сябе абмяжоўваць: урач забараніў мне ўжываць многа вадкасці.

### З НАТАТАК ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

„Хворая прад'яўляе так многа скаргаў, што, напэўна ніякай хваробы ў яе няма“.

### КЕМЛІВЫ ВУЧАНЬ

— Як можна вызначыць узрост курыцы? — пытае выкладчык сельскагаспадарчага тэхнікума вучня.

— Па зубах.

— Дык жа ў курыцы няма зубоў?

— Затое яны ёсць у мяне.

### НЕ ХВАЛЮЙСЯ

— Прачніся, Кастусь, здаецца, злодзей па хаце ходзіць!

— А табе шкада? Хай ходзіць, абы не сцягнуў нічога.

З адным сябрам з'еў пуд солі, з другім пасля гэтага выпіў бочку піва.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

З паліцэйскай аб'явы:

„Вялікая ўзнагарода таму, хто знойдзе труп задушанага цырульніка Сэма Клавертона. Рост 178 см, валасы чорныя, вочы блакітныя; асаблівая прыкмета: забіты размаўляе на паўднёвым дыялекце“.

*

Гаспадар атэля ў тропіках:

— Дабранач, містэр Сміт. І не палохайцеся, калі ў пакой залезе пацук: там ёсць кобра, і яна яго адразу праглыне.

*

У кафэ дзяўчына гаворыць сваёй сяброўцы:

— Глядзі, як пяшчотна вуркуе ў тым кутку Анутэ са сваім трэцім мужам...

Тут падышоў Кіндзюліс і зазначыў:

— Вось будзе шуму, калі даведаецца чацверты.

### УСМЕШКІ ФІЛОСАФАЎ

У Арыстоцеля запыталіся:

— Чым ты адрозніваешся ад большасці людзей?

— Яны жывуць для таго, каб есці, а я ем для таго, каб жыць, — адказаў філосаф.

*

Калі фракійскі цар Лісімох прыгразіў філосафу Феадору смерцю, апошні ўсклікнуў:

— Вялікая важнасць! Любая ядавітая муха зробіць гэта.

### З „Весніка Задрыпоніі“

### НЕВЕРАГОДНЫ ЎЛОЎ

Рыбалоў-аматар А. Пеўнюк на звычайную вуду злавіў шчупака вагой 19,5 кілаграма і тут жа адпусціў яго. Усё роўна б ніхто не паверыў, — заявіў нашаму карэспандэнту.

### НАВАГОДНІ МАСКАРАД

прайшоў у трэсце „Будспецпакульможаш“ пасля праверкі з міністэрства.

Цяпер супрацоўнікі трэста ні сябе, ні сваіх не пазнаюць.

— Сёння Валодзя будзе рабіць даклад аб законе Ньютана.

З чаго смяюцца суседзі.

Без слоў.

## Курёзы

### ГРАФ КАЛІОСТРА ДЛЯ ТУРЫСТАЎ

Цэлых пяць год калясілі па Італіі двое „празорцаў“, выдаючы сябе за выканаўцаў завяшчання графа Каліостра, славутага італьянскага авантурыста XVIII стагоддзя. У свой час Каліостра быў прыгавораны інквізіцыяй да пажыццёвага турэмнага зняволення, але неўзабаве памёр у крэпасці Сан Леа, паблізу граніцы Італіі з Сан Марына. Абставіны яго смерці і месца пахавання так і засталіся невядомымі. І вось „празорцы“ Джаэлю з'явіўся „дух нябожчыка графа“ і, паведаміўшы аб месцы пахавання, даручыў перавезці свае астанкі на выспу Мальту.

Калі вярзенні аб гутарцы з графам пачалі нудзіць нават самых даверлівых слухачоў, Джэль з сябрам вырашылі паказаць малаверам наглядны доказ. Пасля перагавораў з уладамі Сан-Марына яны прыступілі да раскопак. Праз дзве гадзіны было выяўлена некалькі малых костак. Аказаліся... кролікавымі. Але ўжо позна вечарам экскаватар выцягнуў з ямы чалавечы чэрап, праўда, настолькі сухі і белы, што ў сяго-таго ўзнікла падазрэнне, ці не падкінуты ён быў туды ў цемры. Ажыўшыя духам „празорцы“ запэўнілі, што шкілет Каліостра будзе знойдзены на другі дзень.

Прадказанні не збыліся. Пасля таго, як у яме быў выяўлены яшчэ адзін чэрап, натоўп у страху адступіў. Але „празорцы“ не разгубіліся. „Чэрап і косці былі знойдзены на вызначаным намі месцы, значыць, яны прыналежаць графу Каліостра“, — заявілі яны.

Задаволены і мясцовыя ўлады, якія канфіскавалі „астанкі графа“, каб выкарыстаць іх разам з „магілай“ у якасці памяткі для прыманкі турыстаў.

Сярод нас

Часам плююць на тых, каго не могуць пераплюнуць.